www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 11 (4263)**

6 лютага 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

## Нават касметыку адклалі ўбок

Рэформа выбарчага заканадаўства прыпынена. Пра гэта заявіла днямі старшыня Цэнтрвыбаркама **Лідзія Ярмошына**.

Тыя прапановы, што былі падрыхтаваны летась міжведамаснай групай пад кіраўніцтвам Ярмошынай, мяркуючы па яе ж выказваннях, і на рэформу не цягнулі. Хутчэй што касметыка. Але і гэты зусім не рэвалюцыйны праект, як бачым, пакладзены пад сукно.

Натуральна, што вырашала не Ярмошына, а той, каго яна называе сваім працадаўцам. Гэта фактычна пацвердзіў і спецпрадстаўнік Парламенцкай асамблеі АБСЕ **Кент Харстэд**, які быў у Мінску ў студзені і цікавіўся, чаму ўлады не выконваюць рэкамендацыі што да паляпшэння выбарчага заканадаўства, сфармуляваныя місіяй АБСЕ яшчэ па выніках парламенцкіх выбараў 2016 года. Дык вось, са слоў Харстэда, *"было тлумачэнне ад прэзідэнта, што прыярытэтам ёсць стабільнасць у краіне і таму яны не могуць рухацца далей у гэтым пытанні"*.

Чым жа падрываюць стабільнасць рэкамендацыі АБСЕ? Яе эксперты раяць, напрыклад, рэгістраваць партыі (а гэта ў нас не робіцца з 2000 года), стварыць іншыя ўмовы для палітычнай канкурэнцыі, нарэшце – пры падліку галасоў выразна паказваць прысутным кожны бюлетэнь.

Што, ад гэтага неба на зямлю зваліцца? Ва ўяўленні беларускіх кіроўных вярхоў – мусіць, і сапраўды так. Бо такія навацыі разбураць усю непразрыстую сістэму "элегантных" перамог. Давядзецца сапраўды спаборнічаць за права застацца ва ўтульных крэслах, прычым вынік непрадказальны. А гэта – жах, які ляціць на крылах ночы.

Натуральна, наверсе ніколі не скажуць: баімся страціць крэслы, таму – ну яе да д'ябла, тую рэформу! Беларускія вярхі ўсё дзяўбуць пра нейкую стабільнасць. Маўляў, не пра сябе дбаем, а пра народ.

Рэжым хоча аўтарытарнай стабільнасці, што трымаецца на страху, апатыі, прапагандысцкім замбіраванні. Дэмакратыя для тутэйшых вярхоў – сінонім хаосу. Між тым найболей стабільнымі выглядаюць акурат краіны сталай дэмакратыі.

Многім у Злучаных Штатах Амерыкі недаспадобы цяперашні экстравагантны прэзідэнт **Дональд Трамп**. Але ягоныя апаненты не рыхтуюць вашынгтонскі майдан, бо можна абраць іншага кіраўніка выканаўчай улады праз чарговыя выбары. І ў любым выпадку болей за два тэрміны Трамп у Белым доме не прабудзе, канстытуцыю пад сябе перапісаць яму не дадуць.

**Ангела Меркель** на пасадзе канцлера Германіі аж з 2005 года, аднак жа там – ніякага падабенства з беларускай сітуацыяй, калі ў кіроўнага рэжыму ўсё схоплена, канкурэнты загнаны пад лаўку. Партыя Меркель раз-пораз мусіць змагацца за электарат на выбарах. І нямецкія бюргеры аддаюць перавагу выбарчым участкам, а не плошчы, бо на тамтэйшых выбарах рэальна лічаць галасы. А палітыкі мусяць карэкціраваць сваю лінію з улікам настрояў масы, бо інакшай падчас чарговай электаральнай кампаніі праляцяць як фанера над Парыжам. Тая ж Меркель, напрыклад, мусіла прызнаць памылкі ў міграцыйнай палітыцы.

У Беларусі ж вялікае начальства сваіх памылак прызнаваць не хоча. Вось цвердзяць заклінанні пра стабільнасць, але ж апошні раз масавыя вулічныя выступленні – так званыя дармаедскія пратэсты – былі справакаваны акурат уладамі з іх дэкрэтам №3. Такі адыёзны дакумент маглі стварыць толькі дзеячы, што адарваліся ад народа, страцілі зваротную сувязь (а найлепшая форма зваротнай сувязі – акурат дэмакратычныя выбары). Яшчэ болей, новы дэкрэт №1, напісаны замест ранейшага "дармаедскага", таксама можа стаць бомбай. Бяда, на мой погляд, у тым, што распрацоўваюць такія рашэнні людзі, якія думаюць не пра адказнасць перад выбаршчыкамі, а пра тое, які новы бізун вынайсці.

Рэжымы, у якіх выбары перастаюць быць выбарамі, самі штурхаюць грамадзян да змен праз вуліцу. І начальству не варта цешыцца моцай сілавога кулака (маўляў, вунь як спрытна разагналі леташні Дзень Волі, прыціснулі штрафамі ды арыштамі аматараў выходзіць на заклікі Міколы Статкевіча). Усё гэта да пары да часу. У гісторыі багата прыкладаў, як жорсткія рэжымы прагнівалі і валіліся за лічаныя дні.

Я сам не прыхільнік рэвалюцый, бо гэта гвалт з непрадказальнымі наступствамі. І для тых, хто сёння ў кіроўнай эліце, лепей было б пакрысе запускаць механізмы трансфармацыі беларускай мадэлі, каб пазбегнуць дэградацыі краіны і на нейкім этапе – забурэнняў.

Але наверсе, як бачым, пераважвае жаданне закансерваваць палітычную сітуацыю. І гэта, мяркую, вельмі недальнабачна.

ТАМ, ЗА ПРАХАДНОЙ...




## ГАРОТНЫ ЛЁС
### Мінскага падшыпнікавага завода вачыма рабочых

**Казкі Мікалая Анціпава**

Папярэдняя публікацыя на гэту тэму была змешчана ў "Народнай Волі" 5 мая 2017 года. На той момант сума ўсіх запазычанасцяў завода перад банкамі, дзяржавай, за матэрыялы і энергарэсурсы дасягала 900 мільёнаў рублёў. Многія чытачы не маглі паверыць, лічылі лічбу памылкай аўтара. Адзін з былых дырэктараў прадпрыемства нават спецыяльна пабываў на заводзе, каб пераканацца, што так і ёсць, што журналіст нічога не наблытаў.

Мінула больш за дзевяць месяцаў. З дапамогай былога работніка падшыпнікавага завода Аляксандра Еўдакімчыка мы вырашылі пацікавіцца развіццём падзей, ці з'явіліся на прадпрыемстве станоўчыя перамены, спадзяваннямі на якія калектыў жыве з 2009 года. Менавіта тады завод наведаў Аляксандр Лукашэнка. З усіх бакоў былі цвёрдыя абяцанні вывесці падшыпнікавы завод на сусветныя пазіцыі. Каб узмацніць кіраўніцтва, з Міністэрства прамысловасці прыслалі Аляксандра Лабусава. І вось вынік яго работы: запазычанасць за шэсць гадоў кіравання не знікла, а, наадварот, узрасла больш чым у дзесяць разоў. Гэта не перашкаджала яму, аднак, рэгулярна рабіць рэкламныя заявы. Адна з іх: "У сталіцы фактычна вырасце новы завод сусветнага ўзроўню!"

Але набытае за вялікія грошы, каля 70 мільёнаў долараў, абсталяванне па плане мадэрнізацыі перамен не прынесла. І А.Лабусаў развітаўся з заводам.

Новага дырэктара вымушаны былі шукаць аж у Расіі. Мікалай Анціпаў, які папрацаваў на Алтаі і ў Падмаскоўі, далікатна крытыкаваў дзейнасць папярэдніка і абяцаў, што усё пераменіцца ў бліжэйшы час. Маўляў, заказаў хапае. Кітайскай канкурэнцыі ў роліка-сферычнай галіне няма. Па многіх таварных пазіцыях Мінскі падшыпнікавы з'яўляецца манапалістам, бо валодае ўласнымі распрацоўкамі.

Карацей, паводле сведчання новага генеральнага дырэктара, усё спрыяла росту і выпраўленню хібаў. Ён гаварыў так: "Не нарасціць у такіх умовах аб'ёмы вытворчасці будзе вельмі дзіўным".

Мой добраахвотны памочнік Аляксандр Еўдакімчык працаваў у свой час станочнікам, потым, у перыяд пратэстных выступленняў рабочых на пачатку 1990-х гадоў, абіраўся ў склад страйкавага камітэта, а затым і старшынёй прафкама завода. Зараз Аляксандр Васільевіч не губляе сувязі з калегамі, пастаянна сочыць за падзеямі на МПЗ, збірае статыстычныя дадзеныя з розных крыніц, сустракаецца з людзьмі, якіх непакоіць гаротны стан былога флагмана прамысловасці.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

СТРАТА

## Бывай, Вялікі Беларус!



Напрыканцы мінулага тыдня маланкай даляцела з Франкфурта-на-Майне журботная вестка: на 108-м годзе памёр Вялікі Беларус – **Барыс Уладзіміравіч Кіт**. Ён праславіў нашу краіну, сваю Радзіму, на ўвесь свет.

Акадэмік Сусветнай Акадэміі астранаўтыкі. Аўтар першага ў гісторыі падручніка па ракетным паліве. Яго імя разам з імёнамі славутых вучоных Амерыкі, прадстаўнікоў вышэйшага інтэлекту чалавецтва ХХ стагоддзя замуравана ў капсуле часу ў сцяне Капітолія.

Жыццёвыя шляхі-дарогі Барыса Уладзіміравіча Кіта пачыналіся з Беларусі. Яго Бацькаўшчына – вёска Агароднікі Карэліцкага раёна. Ён вучыўся ў Наваградскай гімназіі, Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя. Актыўны ўдзельнік Сялянска-работніцкай грамады, выкладчык матэматыкі, дырэктар Віленскай, затым Наваградскай беларускай гімназіі, Адміністрацыйна-гандлёвага інстытута ў Маладзечне…

Здаецца, зусім нядаўна дэмакратычная грамадскасць шырока адзначала 100-гадовы юбілей "найпершага беларуса з беларусаў свету", як назваў Бырыса Уладзіміравіча Васіль Быкаў. Крыху больш за месяц таму, напрыканцы снежня, мы, супрацоўнікі "Народнай Волі", віншавалі гэтага славутага чалавека з Новым годам і выказвалі спадзяванне, што дачакаемся яшчэ 110-годдзя. І вось…

"Народная Воля" не аднойчы расказвала пра жыццё Барыса Уладзіміравіча Кіта. Але сёння немагчыма не нагадаць яшчэ раз. На 2-й старонцы чытайце радкі Лідзіі Савік, якая шмат гадоў падтрымлівала сяброўскія адносіны са знакамітым земляком. На 3-й старонцы нататкі галоўнага рэдактара "Народнай Волі" Іосіфа Сярэдзіча (у перадруку) пра тое, як група беларусаў гасцявала ў Барыса Кіта падчас святкавання яго 100-годдзя і пра яго адказы на мноства пытанняў.

ЧУЛІ?

## Помнік Тадэвушу Касцюшку – ужо ў Беларусі

3 лютага помнік Тадэвушу Касцюшку дабраўся да Мінскай мытні, а 4 лютага былі афармлены ўсе дакументы.

"Дзякуючы спрыянню Міністэрства культуры і Мытнага камітэта помнік вызвалены ад усіх плацяжоў і збораў пры перавозцы праз мяжу. Гэта адбылося, бо ў законе ёсць пункт, што культурныя каштоўнасці вызваляюцца ад такіх плацяжоў. Пасля рашэння аб усталяванні помніка Міністэрства культуры за лічаныя дні выдала нам дакумент пра тое, што помнік прызнаецца культурнай каштоўнасцю (не блытаць з гісторыка-культурнай), улічваючы ягоныя мастацкія вартасці і значнасць для краіны. За што ім вялікі дзякуй, бо мытныя плацяжы маглі скласці амаль поўны кошт помніка", – паведаміў на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку" ініцыятар усталявання помніка славутаму беларусу Глеб Лабадзенка.

"Такім чынам, да запланаванай даты, дня народзінаў (4 лютага) выдатнага сына Беларусі Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі мы паспелі амаль усё, 90 працэнтаў справы. Помнік гатовы і дастаўлены (ахвярным учынкам Алеся Сапегі, які дзеля гэтага за тры дні наматаў больш за 2000 кіламетраў). Ахвярнаю працаю скульптара Геніка Лойкі, які ездзіў ажно ў Харкаў, каб там давесці свой твор да ладу перад адліўкай. Пастамент гатовы (яшчэ раз дзякую фірме «Гранітны свет» з Заслаўя, якая робіць пастамент менш чым за палову кошту). Шыльда адлітая і мацуецца да пастамента.

Засталося давесці да канца справу з падмуркам (чакалі асобнага дазволу на гэтыя працы, ён атрыманы). І тады ўжо будзем прызначаць дату ўрачыстага адкрыцця. Самы аптымістычны варыянт – наступныя выхадныя. Самы доўгі – першыя выхадныя сакавіка.

Ну, і віншую нас усіх, што мы з вамі супольна можам рабіць такія справы!"

ЧУЛІ?

## Адчуй сябе алімпійцам

Да Алімпіяды застаюцца лічаныя дні, і ў беларускіх крамах пачалі прадаваць парадна-цывільную форму беларускіх алімпійцаў. Яна выраблена з матэрыялаў айчыннай вытворчасці на прадпрыемствах Беларусі, аб'ёмы яе паставак у гандлёвую сетку невялікія.

СУД

## Апраўдалі і… затрымалі

У сакавіку 2017-га галоўны інжынер Мінскага завода колавых цягачоў Андрэй Галавач быў асуджаны па ч.3 арт.430 КК (атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры) на 8 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Мінскі гарадскі суд адправіў справу на дадатковы разгляд, і ўчора суд Фрунзенскага раёна Мінска абвясціў 56-гадоваму галоўнаму інжынеру апраўдальны прысуд. Але… ён адразу ж быў затрыманы па новай справе.

Яго зноў падазраюць у атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры. За магчымасць ажыццяўлення пастаўкі для патрэб прадпрыемства абсталявання коштам больш за 20 мільёнаў долараў мужчына нібыта атрымаў хабар у памеры 70 тысяч долараў.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Бюджетные страдания – но не у нас

Покойный Михаил Задорнов любил с эстрады называть американцев «ну тупыыыыми!!!». Но вот проанализируешь процесс принятия бюджета в США и поневоле задумаешься: а кто на самом деле тупой – американцы или?..

Двадцать три дня правительство США не имело финансирования. Не только клерки не получали зарплату – даже статую Свободы сняли с довольствия, отключив от электрического освещения. Все это время шли ожесточеннейшие дебаты в Конгрессе: республиканцы и демократы до хрипоты спорили о том, как относиться к 700 тысячам молодых иммигрантов, нелегально привезенных в Америку в детстве. Дети ведь не виноваты в том, что пограничная служба США проворонила тот момент, когда их родители нелегально пересекли границу, а миграционная служба вовремя не депортировала их туда, откуда они прибыли. Но содержание всей этой молодежи, ее образование и лечение сейчас является предметом пристального рассмотрения конгрессменов. И демократы застопорили принятие бюджета – пока не получили надлежащие гарантии от большинства, что гуманизм в отношении этих 700 тысяч неграждан США все-таки восторжествует.

Для американского бюджета траты на содержание этих 700 тысяч – не самая большая статья расходов. Но принципиальная. Ничуть не менее принципиальная, чем безопасность. И уж куда более принципиальная, чем содержание президента вместе со всей его администрацией. А потому согласования в Конгрессе, а затем в Сенате шли не один день. И президент приезжал к парламентариям уговаривать их, дабы они пришли к согласию. И была создана межпартийная группа, чтобы выработать компромиссное решение.

И лишь после долгих-долгих дискуссий бюджет сверхдержавы был принят – как временный! Как постоянный он будет утвержден лишь после того, как требования парламентского меньшинства (а демократы сегодня в меньшинстве и в Конгрессе, и в Сенате) обретут силу закона. Лишь тогда они проголосуют «за».

Такая драка идет не за каждый цент, но за каждый миллион долларов. Причем речь не о примитивном «распиле» бюджета между округами, интересы которых лоббируют депутаты обеих палат, и отраслями, представленными корпорациями, которые поддерживают две крупнейшие партии США. Речь идет о принципиальных вопросах. О пропорциях бюджета. О том, какой процент пойдет на безопасность, а какой – на образование и науку. Скажите американцу, что есть страна, считающая себя цивилизованной и тратящая на образование менее одного процента своего бюджета, – и он только покрутит пальцем у виска: ну тупыыыыые!!!

Это о нас. Это о нашем бюджете. Это о наших зарплатах в системе образования и здравоохранения – в сравнении с отчислениями в различные спецфонды, на содержание бесконечно растущих в себестоимости спецслужб и т.д. И это о наших депутатах, дружненько голосующих за бюджет, – причем так за него голосующих, что потом приходится вносить коррективы задним числом. И о сути этих корректив нам не расскажут с телевизионного экрана. А зачем об этом рассказывать? Лучше рассказать, как космические корабли бороздят Большой театр, а команда ветеранов хоккея выиграла у команды ветеранов футбола.

И вроде бы все то же самое у нас, что и у американцев: президент, двухпалатный парламент – статуи Свободы не хватает, правда, но ее место занимает памятник Дзержинскому со всеми вытекающими последствиями. И депутаты у нас белые и пушистые, но… Но на образование и здравоохранение все равно тратится меньше одного процента. И никто от этого не краснеет, похоже, и не переживает. Ни спикеры двух палат Михаил Мясникович и Владимир Андрейченко, ни председатели бюджетных комиссий Людмила Добрынина и Владимир Пантюхов, ни, кажется, все остальные так называемые парламентарии.

В постановке Николая Пинигина гоголевский городничий печально вопрошает:

– Чему смеетесь?! Над собой смеетесь!

Но нам Гоголь с Пинигиным не указ. А также не закон и не декрет. И добро бы только нам – нашим депутатам также. Кого выбрали, то и имеем. И до тех пор, пока дебаты с обсуждений бюджета не будут транслироваться по телевизору вместо обрыдшего «Клуба редакторов» и я не увижу, что депутаты сражаются за каждую копейку статей «Образование» и «Здравоохранение», я не поверю в торжество белорусской демократии.

Хотя…

Хотя однажды белорусов – в 1996 году, кажется, – спросили, хотят ли они, чтобы органы государственного управления финансировались только из бюджета и гласно. И знаете ли вы, что они ответили на том референдуме?

…Весело, правда?

Ну, тупыыыыые…

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 ЛЮТАГА 2018 г.

ЛЮТЫ–2018

## І зноў снег

Фотарэпартаж з Гомеля.
(TUT.by)

ПРАШУ СЛОВА!

# Бясплатным бывае толькі сыр у мышалоўцы

Артыкул кандыдата медыцынскіх навук В.Моластава «Вопросы, на которые не ответили президенты…» ("Народная Воля" за 16 студзеня) выклікаў дыскусію. Вось і я прашу слова.

Адразу хачу сказаць: пра якую бясплатную адукацыю ў Савецкім Саюзе можа ісці гаворка? Як, дарэчы, і пра бясплатную медыцыну. Альбо пра бясплатнае жыллё. Шкада, што многія да гэтага часу знаходзяцца ў палоне камуністычных міфаў. Мала таго, што яны самі не ведаюць рэальнага стану рэчаў, дык яшчэ і працягваюць множыць хлусню. Я некалі вучыўся ў вясковай школе і магу на сто працэнтаў сцвярджаць, што тады ў нас навучанне было платным. Як і ў тэхнікумах, вучылішчах, інстытутах. А каб не быць галаслоўным, прывяду гістарычны дакумент – пастанову Савета Народных камісараў СССР №1860 ад 2 кастрычніка 1940 года. Чытаем: "Увесці… у 8-х, 9-х і 10-х класах сярэдніх школ, тэхнікумах, вучылішчах і вышэйшых навучальных установах плату за навучанне.

2.Устанавіць для навучэнцаў 8–10-х класаў сярэдніх школ, тэхнікумаў і вучылішчаў наступныя памеры платы:

а) у школах, тэхнікумах, вучылішчах Масквы і Ленінграда, а таксама ў сталічных гарадах саюзных рэспублік – 200 рублёў у год;

б) ва ўсіх астатніх гарадах, а таксама сёлах – 150 рублёў у год.

3.Устанавіць наступныя памеры платы за навучанне ў вышэйшых навучальных установах СССР:

а) у вышэйшых навучальных установах Масквы, Ленінграда і сталіцах саюзных рэспублік – 400 рублёў у год;

б) у вышэйшых навучальных установах, размешчаных у іншых гарадах – 300 рублёў у год.

Старшыня СНК СССР – В.Молатаў

Кіраўнік спраў СНК СССР – М.Халмоў".

Што тычыцца бясплатнай медыцыны, бясплатнага жылля і г.д., то прывяду дадзеныя з усесаюзнай газеты «Социалистическая индустрия», якая выдавалася да самага распаду СССР. У адным з яе нумароў была змешчана інфармацыя пра тыя сумы, якія вылічваліся з заробкаў працоўных, але якія ніколі не адлюстроўваліся ў разліковых лістах. Гэта:

– на адукацыю – 10%,
– на жыллё – 22%,
– на ахову здароўя – 11%,
– на пенсіённае забеспячэнне – 36%,
– на сацыяльнае страхаванне – 5,4%,
– на ўтрыманне кіраўнічага апарату – 5%.

Такім чынам, агульная сума вылікаў складала 95,4 працэнта. На заробак, за які мы распісваліся, заставалася ўсяго… 4,6%. Гэта значыць, што з заробленага, напрыклад, рубля нам на рукі плацілі толькі каля 5 капеек. І ў той жа час камуністычная прапаганда далдоніла, што ў Саюзе бясплатная не толькі вучоба, але і медыцына, і жыллё, і г.д. І мы верылі ў гэты падман. Некаторыя, як бачым, вераць і да сённяшняга дня.

Заўважу, зарплату ў Савецкім Саюзе доўгі час атрымлівалі толькі рабочыя і служачыя. А калгаснікі грошай наогул не атрымлівалі, за іх працу ім налічвалі працадні (так званыя палачкі), на якія выдаваліся зерне, бульба і іншыя сельгаспрадукты. Сяляне выжывалі ў асноўным за кошт таго, што мелі ў сваіх уласных гаспадарках. І мала хто меў магчымасць аплачваць вучобу дзяцей. Таму абсалютная большасць пасля заканчэння няпоўнай сярэдняй школы заставалася працаваць у тых жа калгасах.

Ды што казаць, бальшавіцкая сістэма прынесла больш шкоды, чым карысці. Той сацыялізм, які будавалі камуністы, гэта трагедыя для мільёнаў людзей.

**Барыс Уладзіміравіч СТАРЫКЕВІЧ, пенсіянер, 83 гады.**

*Мінск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Беларусу дай мільён, ды ў піўнуху пойдзе ён

У гродзенскі выцвярэзнік трапіў дзяцюк, у кішэні якога былі шведскія кроны ў суме, эквівалентнай 10 тысячам долараў. Пазней высветлілася, што ён ездзіў на заробкі ў Еўропу.

Выцвярэзнік стаў на вушы,
І спакой разбіты ўшчэнт:
Звыклы ход падзей парушыў
Найцікавейшы кліент.
Ён на выгляд нехлямяжы,
Ён азызлы, як і ўсе,
Лыка, так сказаць, не вяжа
І бязглуздзіцу нясе.
Тут такі любы і ўсякі…
Разгубіліся, калі
У кішэні выпівакі
Цэлы пук купюр знайшлі,
Перавязаных тасьмою.
Хоць, напэўна, не мільён
Набярэцца ў ім, затое
Не рублёў, а шведскіх крон.
Выклікае зайздрасць сума –
Хоць вачам сваім не вер.
Той, хто ўбачыў пук, падумаў:
"Безумоўна, мільянер
І купаецца ў раскошы
Гэты п'яненькі дзяцюк,
Як з сабой такія грошы
Носіць ён – аж дзесяць "штук"!"
Кіраўнік прыняў рашэнне:
"Памагу яму ў бядзе,
Дык і мне з яго кішэні,
Можа, штосьці перападзе".
Даў усім каманду быстра:
– Хай належна адпачне!
Абслугоўваць як міністра
Ці, да прыкладу, мяне!
Перш кліента ўрач праверыў:
Ну а раптам ён нядуж?
Потым быў у мільянера
Не халодны – цёплы душ.
Спаў на мяккае пасцелі,
Піва выпіў з "пахмяла".
Словам, быццам у гатэлі
Для кліента ноч прайшла.
Сэрвіс проста адмысловы
Ці, як кажуць, бляск і шык.
Мільянера для размовы
Кліча ўранку кіраўнік.
На стале, канешне, пляшка,
А ўнутры яе – каньяк:
Мільянеру ўсё-ткі цяжка,
Ён з пахмелля, як-ніяк.
Пацякла размова гладка,
Прасвятлеў адразу клёк.
– Трэба піць, браток, з аглядкай, –
Кіраўнік зрабіў намёк, –
Як сядзіш у рэстаране.
Выпіў – добра закусі.
А дамоў, як млосна стане,
Дабірайся на таксі.
І наогул мільянеру,
Каб трымацца на плыву,
Варта піць усё-ткі ў меру,
Не дурманіць галаву…
– Не хаджу я ў рэстараны,
Каб заліць сабе ў гарляк! –
Зноў кліент на выгляд п'яны –
Пэўна, ўзяў сваё каньяк. –
Проста ўчора мы з сябрамі
Пасядзелі ў гаражы.
Ну і трохі перабралі…
Што тут дрэннага, скажы?
Я ж не хворы, а здаровы…
Не задаўся дыялог.
І пасля тае размовы
Кіраўнік дапяць не мог
(Для яго, бадай, сакрэтам
Застаецца і цяпер),
Хто ж сядзіць у крэсле гэтым:
Галадранец? Мільянер?
* * *
А напэўна, ён тыповы –
Гэты братка-беларус:
Жыць, як Бог падасць, гатовы,
Раўнадушны да спакус,
Лёгка зносіць крыўду, скруху,
І хоць дай яму мільён,
Ды ў знаёмую піўнуху,
Як раней, хадзіцьме ён…

ИЗ РЕДАКЦИОННОЙ ПОЧТЫ

# Есть и обратная сторона медали

Уважаемая редакция! Огромное спасибо за публикацию правдивых, острых и смелых статей ваших журналистов и читателей. Спасибо за двуязычие и плюрализм мнений. А выше всяких похвал – статьи Светланы Калинкиной, Михася Скоблы и Александра Федуты.

Я 1939 года рождения – дитя войны. Меня взволновала статья М.Скоблы "Верабейка гаварушчы з беларускай пушчы" ("НВ", 5 января). О героизме партизан во время Второй мировой войны напечатано книг и снято кинофильмов более чем достаточно. Я же хочу рассказать о том, что помню сам и о чем мне рассказали мои родители. Считаю, что страна должна знать не только своих героев.

В идеале народ должна защищать от захватчиков регулярная армия. Но в первые дни и месяцы войны Красная Армия по известным причинам со своими обязанностями не справилась. Немцы так стремительно продвигались по советской территории, что военнообязанных мужчин в нашей местности (тогдашний Бытеньский, теперь Ивацевичский район) военкоматы не успели мобилизовать. На оккупированной территории возникали партизанские отряды. Но многие мужики продолжали работать на своих домашних хозяйствах, в лес шли многие из тех, у кого не было ни кола ни двора. А поскольку на подножном корме долго не протянешь, особенно зимой, то партизаны делали набеги на близлежащие деревни. У моего отца с хутора забрали рабочую лошадь, разорили пчелиные ульи, шомполами протыкали землю во дворе – искали сундуки с одеждой. У дяди забрали полушубок и сапоги.

Помню, партизаны принесли в наш дом бутыли с самогоном и овечью голову и приказали, чтобы мама сварила холодец. Ели, пили, горланили песни, слава Богу, не стреляли. Еле удалось от них избавиться. А в ближайших Колбовичах нетрезвый партизан обстрелял немцев из винтовки, и те сожгли деревню.

А еще отец рассказывал, что неподалеку от нашего хутора партизаны, непонятно зачем, сбили советский самолет, летчик уже на земле умер от ран.

Знаю, что командовал партизанами в нашем районе **Антон Мороз**. После войны он был председателем сельсовета в деревне Гавиновичи (теперь Подгорная) и при загадочных обстоятельствах утонул в реке.

628 деревень вместе с жителями сожгли фашисты в Беларуси. Почему-то партизаны далеко не всегда спешили встать на их защиту, нередко позорно скрывались в лесах. Честь и хвала тем народным мстителям, которые сражались с фашистами, приближая разгром оккупантов. Но есть и обратная сторона медали…

**Андрей КАЗЕКО.**

*г.Барановичи.*

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# …Так будет более справедливо и честно

Глава государства постоянно твердил, что будет советоваться с народом по вопросу повышения пенсионного возраста. Да, советовались. По всем телевизионным каналам звучала полнейшая поддержка увеличения возраста выхода на пенсию. Интервью брали у пенсионеров, госслужащих, офисных работников. Все они поддерживали. Но почему-то в этом отрепетированном хоре не звучали голоса водителей, строителей, работников, стоящих у конвейера.

После очередных президентских выборов, с 2016 года, приступили к «реформированию» пенсионной системы. Но реформы как таковой не было. После совещания на высоком уровне кулуарно принято решение о поэтапном повышении пенсионного возраста на три года. Аргумент: мы в центре Европы, а там на заслуженный отдых уходят в 65–70 лет. Значит, и нам нужно равняться на европейцев. Однако при этом стыдливо умалчивают тот факт, что в европейских странах сначала продолжительность жизни увеличилась до 75–80 лет, а уже потом повысили пенсионный возраст. А белорусы по этому показателю топчутся на 91-м месте в мире. Так, по статистике, мужчины в Беларуси в среднем живут до 66 лет. В экономически успешном Дзержинском районе и того меньше. Значит, когда пенсионная реформа в нашей стране завершится, то представители сильной половины общества смогут насладиться отдыхом только 1–3 года, в то время как европеец – от 10 до 15 лет. Разница есть?

Вызывает сомнение, что в ближайшее время продолжительность жизни в Беларуси будет увеличиваться. Причин здесь много: рост числа сердечно-сосудистых заболеваний, онкология, злоупотребление спиртными напитками, отсутствие условий для массового приобщения к здоровому образу жизни, суициды и так далее. К тому же людям нередко приходится переживать стрессы, вызванные нестабильной работой экономики, перепадами на финансовом рынке и начавшейся «оптимизацией» численности трудовых коллективов. На заслуженный отдых уходят дети, родители которых перенесли ужасы Великой Отечественной войны. Сильное воздействие, особенно на мужчин, оказала авария на ЧАЭС в 1986 году. Многие из уходящих теперь на пенсию были в числе ликвидаторов.

Во времена Советского Союза призывники из Беларуси всегда были гордостью Вооруженных сил страны и надежно служили на самых ответственных участках. Может, поэтому многие из нас с возрастом рано облысели, лишились зубов, поседели. Не прибавил здоровья нашему поколению и Афганистан, а также неуставные отношения, процветавшие во многих армейских частях. Мне пришлось служить два года на центральном узле связи ракетных войск стратегического назначения. Мы несли боевое дежурство. Дисциплина была железная, никакой «дедовщины». Но пришлось действительно выдерживать сильнейшие физические и психологические нагрузки. А ведь среди наших сверстников были и такие, кто откупился от службы, боясь попасть в Афганистан. Немало было и тех, кто проходил обучение на военных кафедрах. И только единицы не служили по состоянию здоровья.

Обидно, что и те, кто служил, и те, кто не служил, будут уходить на пенсию одинаково в 63 года. Считаю, что мужчины, честно исполнившие свой гражданский долг и прошедшие действительную воинскую службу, должны уходить на пенсию раньше, чем те, кто отсиживался дома. Так будет более справедливо и честно.

**Анатолий ПЛУЖНИКОВ.**

*г.Дзержинск.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ…

# Не метро, а казка

***Сорамна прызнацца, але толькі нядаўна першы раз пабывала ў сталіцы нашай краіны – Мінску. Асаблівае ўражанне ад метро – для мяне, вясковай жыхаркі, гэта як нейкая казка. Цікава, колькі ж людзей карыстаюцца штогод гэтым цудам?***

**Надзея КРЫЛЕНКА, жыхарка Хоцімскага раёна.**

Для мінчан метро – адзін з відаў транспарту, а вось для людзей, якія ўпершыню аказваюцца ў падземцы, сапраўдная казка. Для вас, спадарыня Крыленка, даём такую інфармацыю. За 2017 год Мінскі метрапалітэн перавёз 284,2 мільёна пасажыраў. Калі будуць уведзены ў эксплуатацыю станцыі новай, трэцяй, лініі метро, пасажырапаток узрасце на дзясяткі мільёнаў чалавек.

АДКРЫТЫ ЛІСТ

# удзельнікам Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуская мова ў сферы SACRUM: гісторыя і сучаснасць», прысвечанай лінгвістычнай сітуацыі ў рэлігійнай сферы жыцця беларускага грамадства (НАН Беларусі, 21 лютага 2018 г.)

*Дык вось, аддайце кесарава кесару, а Божае Богу.*
Мф 22, 21

У сядзібе ГА "ТБМ імя Францыска Скарыны" 21 студзеня адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай рады. Як заўсёды, разглядаліся надзённыя пытанні стану беларускай мовы, ішлі размовы пра розныя шляхі яе пашырэння ў грамадстве і іншае.

У канцы мерапрыемства прыгадаліся і важныя гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў краіне ў 2017 годзе. Гэта і святкаванне 500-годдзя з дня выхаду Псалтыра і пачатку беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, і прэзентацыі Новага Запавету, выдадзеныя Праваслаўнай і Каталіцкай цэрквамі на беларускай мове.

Адзначым, што зацікаўленыя філолагі, педагогі пасля заканчэння пасяджэння рады доўга не разыходзіліся. Іх хвалявала тая сітуацыя, што ў нашай краіне існуюць розныя правапісныя сістэмы: Праваслаўная царква Беларусі мае сваю, Каталіцкая царква – сваю. Адны развіваюць сваю перакладчыцкую дзейнасць пад уплывам рускай мовы, другія – пад уплывам польскай.

Прыгадалі Гасподнюю малітву *Ойча наш*. Сталі прагаворваць. Паколькі сярод прысутных былі і каталікі, і праваслаўныя, і грэка-каталікі, то малітва на беларускай мове гучала па-рознаму. Тэкст адрозніваўся сваімі сінтаксічнымі канструкцыямі. Больш за тое, заўважылі, што і імя Сына Божага вымаўляецца і пішацца па-рознаму: *Ісус – Езус – Ісус*, *Баранак – Агнец (Ягнец)*, а таксама зварот: *Ісусе Хрысце – Езу Хрыстэ – Ісусе Хрысце, Пане – Госпадзі*. Па-рознаму называюцца і важнейшыя хрысціянскія цэнтры Святой Зямлі: *Ерузалем – Іерусалім, Ізраэль – Ізраіль, Бэтлеем – Віфлеем* і шмат іншых.

Некаторыя могуць сказаць, што існуе выпрацаваная тэрміналогія пэўнага веравызнання. Аднак гэта не так. Цалкам пагаджаюся са сваімі сябрамі па ТБМ, якія сцвярджалі, што гэта элементарнае непадпарадкаванне адзінаму правапісу сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

А вось прыклад парушэння граматычных нормаў: *Збаўца нарадзіўся з Панны Марыі*. Або фактычныя памылкі: *Мудрацы прынеслі Немаўляці міра, золата і* **кадзіла** (пасудзіну?); і яшчэ: *Ніхто не накладае латкі з тканіны суровай на адзежыну старую (з тканіны суровай – прасякнутай сур'ёзнасцю, вельмі строгай ці суравой – грубай, нябеленай?)*. У гутарцы называлася шмат іншых яркіх прыкладаў, але ці варта іх прыгадваць?

Адно толькі трэба сказаць, і вельмі істотнае: у Беларусі, як і ва ўсіх нармальных краінах свету, існуе свая сучасная літаратурная мова, мова навукі, навучання, культуры, перыядычнага друку і іншага. Наша беларуская мова прайшла праз многія выпрабаванні, выжыла, выстаяла ў розных неспрыяльных умовах. Цяпер у нас існуюць Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, Закон Рэспублікі Беларусь №420-З ад 23 ліпеня 2008 года. А артыкул 2 сцвярджае: *"Дзяржаўныя органы, іншыя арганізацыі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна ці часова пражываюць або часова знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, павінны кіравацца Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, зацверджанымі гэтым Законам, ва ўсіх сферах і выпадках выкарыстання пісьмовай беларускай мовы"*. Вядома, гэта датычыцца і канфесійнай практыкі.

Адкрыты ліст складзены па прапанове галоўнага рэдактара газеты "Наша слова" сп. Станіслава Судніка. Ён браў актыўны ўдзел у гутарцы і прапанаваў тэму для артыкула, якая стала эпіграфам – своеасаблівым зваротам да паважаных удзельнікаў канферэнцыі, прадстаўнікоў розных хрысціянскіх канфесій Беларусі. А з выказванняў Епіскапа Міхаіла ў "Толковом Евангелии от Матфея" (Мн., 2004) і ў працах Іаана Залатавуста значэнне выразу *кесарава кесару* тлумачыцца намнога шырэй, чым толькі паняцце падаткаў.

Таму да ўдзельнікаў канферэнцыі выказваем нашу вялікую просьбу: стварыць незалежную камісію ў складзе вучоных-мовазнаўцаў з мэтай:

1) выпрацаваць адзіны хрысціянскі іменаслоў і тэрміналогію для перакладу адзінага Святога Пісання для ўсіх канфесій, іншай канфесійнай літаратуры, зыходзячы з асаблівасцяў і гісторыі беларускай мовы;

2) распрацаваць патрабаванні да адзінага канфесійнага стылю;

3) прапанаваць Міністэрству адукацыі ўвесці тэму паняцця канфесійнага стылю ў праграмы розных тыпаў адукацыйных устаноў Беларусі;

4) паколькі з асобнымі хрысціянскімі тэмамі навучэнцы знаёмяцца на ўроках гісторыі і літаратуры, рэкамендаваць педагогам у працэсе навучання выкарыстоўваць тыя хрысціянскія выданні, якія цалкам адпавядаюць патрабаванням сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

**Валянціна РАМАНЦЭВІЧ, член Рэспубліканскай рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны".**

ОТ ДУШИ

# Спасибо, что помогли!

В начале ноября ушедшего года я встретился с одноклассницей, с которой 60 лет назад мы учились вместе в 3-м и 4-м классах, после чего никогда не встречались. Полуторачасовая встреча стала событием в моей жизни, теперь не очень богатой на интересные встречи. Поэтому, когда новый друг в «Фейсбуке» – минчанин, уехавший в Штаты более 20 лет назад, – попросил помочь найти друга детства, с которым он в 1949 году пошел в первый класс 4-й минской школы, отказать ему я не мог. О промежуточных результатах поисков расскажу в другой раз, а сейчас информация для тех, у кого может возникнуть такая задача. Имея минимальные сведения о человеке (Ф.И.О. и год рождения), я обратился в адресный стол УВД Мингорисполкома. За суровыми атрибутами охраны – проходной и напоминающей мышеловку хитроумной «вертушкой» на входе – работают очень милые и уютные женщины, которые к моему запросу отнеслись внимательно и с пониманием. Буквально через несколько минут я получил информацию, которая позволяет продолжить поиск в нужном направлении.

Далеко не во всех наших госучреждениях можно получить столь безупречно выполненную и, кстати, совершенно бескорыстную услугу…

Спасибо!

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ, инженер.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 ЛЮТАГА 2018 г.

СЕНСАЦЫЯ!

Прэзідэнт Эквадора Ленін Марэна.

# Народ Эквадора супраць неабмежаванай колькасці прэзідэнцкіх тэрмінаў

4 лютага на рэферэндуме, які быў ініцыяваны дзеючым кіраўніком дзяржавы, народ выказаўся супраць неабмежаванай колькасці тэрмінаў знаходжання адной асобы на прэзідэнцкай пасадзе. Адбылося гэта ў Эквадоры. Рэферэндум праходзіў па ініцыятыве прэзідэнта краіны Леніна Марэна, які, паводле ягоных слоў, такім чынам спрабаваў заканадаўча гарантаваць недатыкальнасць прынцыпу змянялнасці ўлады. Народ падтрымаў свайго лідара: больш за 65 % выбаршчыкаў аддалі свае галасы за тое, каб абмежаваць колькасць тэрмінаў прэзідэнтуры двума.

Норма пра неабмежаваную колькасць тэрмінаў была ўнесена ў заканадаўства пры папярэдніку прэзідэнта Марэна Рафаэле Карэа ў 2015 годзе. Як сказаў сп. Марэна, народ зразумеў сваю памылку і выправіў яе. Насамрэч, як кажуць аналітыкі, такім чынам Марэна, які займаў пры Карэа пасаду віцэ-прэзідэнта, зрабіў немагчымым вяртанне свайго папярэдніка да ўлады.

У СУСЕДЗЯЎ

# Парашэнка прызначыў стыпендыі дзецям загінуўшых журналістаў

Прэзідэнт Украіны сваім указам прызначыў стыпендыі дзецям журналістаў, якія загінулі пры выкананні рэдакцыйных заданняў падчас асвятлення антытэрарыстычнай аперацыі ў асобных раёнах Данбаса. Стыпендыі былі прызначаны дачцэ фотакарэспандэнта Віктара Гурняка Юстыне (2012 года нараджэння) і дачцэ вядучага праграмы "Тэма тыдня" Днепрапятроўскай абласной дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Аляксандра Чэрнікава Алёне (2014 года нараджэння). Праект указа быў распрацаваны прадстаўнікамі грамадскасці. Стыпендыі не замяняюць пенсіі па страце бацькоў, якія гэтыя дзеці таксама будуць атрымліваць.

ТАМ, У ЯПОНІІ…

# Як схавацца ад ракеты?

У парламенце Японіі пройдуць вучэнні па эвакуацыі. Дэпутатаў будуць вучыць, як хутчэй дабегчы да сховішча ў выпадку атакі балістычных ракет з боку Паўночнай Карэі. Вучэнні павінны прайсці непасрэдна падчас пасяджэнняў вышэйшага заканадаўчага органа краіны.

Пакуль не вядома, ці будуць папярэджваць парламентарыяў, у які дзень адбудуцца вучэнні, альбо не. Напэўна, калі нехта і будзе папярэджаны, дык толькі кіраўніцтва парламента.

Сёння ў склад японскага парламента ўваходзяць 444 дэпутаты, якія прадстаўляюць восем палітычных партый, а таксама 21 незалежны парламентарый.

Нагадаем, што для Японіі перспектыва атрымаць ракетны ўдар з боку Пхеньяна – зусім не жарт. Японія – адзіная краіна ў свеце, грамадзяне якой добра ведаюць пра наступствы ядзернай бамбардзіроўкі яшчэ з часоў Другой сусветнай вайны, таму да праблемы абароны кіруючых органаў і асоб тут ставяцца вельмі сур'ёзна. Тым болей маючы пад бокам такога непрадказальнага суседа, як Кім Чэн Ын.

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# Гала-концерт в честь китайского Праздника весны

Гала-концерт, посвященный китайскому Новому году – Празднику весны, состоялся в Белгосфилармонии. Китайский Праздник весны отмечается в Минске в четвертый раз. Он организован Посольством КНР в Беларуси, министерствами культуры двух стран, соорганизаторы – Департамент культуры провинции Хунань и Китайский культурный центр в Минске. Ансамбль песни и танца «Очарование запада провинции Хунань» уже выступил на 7 тысячах сценических площадок.

**На снимке: ансамбль песни и танца «Очарование запада провинции Хунань».**

СЛЫШАЛИ?

# Германия передала Литве Акт о восстановлении независимости

*Представители Германии официально передали Литве Акт о восстановлении независимого государства от 16 февраля 1918 года.*

Торжественный протокол передачи в Президентском дворце подписали главный архивариус Литвы Рамоюс Крауялис и глава политического архива МИД Германии, профессор Эльке фон Безелагер.

В церемонии также приняли участие президент Литвы Даля Грибаускайте и посол Германии Ангелика Фитс, близкие сигнаторов Акта независимости.

«Это наша гордость нашим народом, нашей историей, гарант нашего единства и нашего будущего», – сказала президент.

После официальной передачи документ был доставлен в находящийся в столице Дом сигнаторов, с минувшего воскресенья музей начал экспонировать его публично.

Акт независимости находится в той комнате, где двадцать членов Совета Литвы под председательством Йонаса Басанавичюса 16 февраля 1918 года подписали этот документ.

Готовясь принять документ, Дом сигнаторов обновил музейную экспозицию.

В прошлом году Литва и Германия подписали договор, согласно которому Германия передает акт Литве максимум на пять лет с ежегодным продлением срока хранения. Соглашение предусматривает, что документ может экспонироваться и в Каунасе, когда этот второй по величине город страны станет Европейской культурной столицей.

Написанный от руки текст постановления 16 Февраля на литовском и немецком языках с подписями 20 сигнаторов обнаружил в Дипломатическом архиве Берлина в конце марта прошлого года профессор Университета им. Витаутаса Великого Людас Мажилис.

УЧЫНАК

# Зігмар Габрыэль прызнаў адказнасць за Халакост

Міністр замежных спраў Германіі Зігмар Габрыэль прызнаў, што менавіта яго краіна нясе гістарычную і юрыдычную адказнасць за масавае знішчэнне яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны. *"Наша краіна здзейсніла гэта арганізаванае масавае забойства, і адзіночныя калабаранты з іншых народаў ніяк не змяняюць агульнай карціны"*, – пазначыў міністр.

Такім чынам кіраўнік знешнепалітычнага ведамства ФРГ пракаментаваў прыняцце польскім парламентам паправак да закона аб Інстытуце Нацыянальнай Памяці. Нагадаем, што гэта здарылася напярэдадні прыняцця польскім прэзідэнтам Анджэем Дудам рашэння, падпісваць альбо не падпісваць закон, які, між іншым, прадугледжвае крымінальнае пакаранне для тых, хто выкарыстоўвае словы "польскія лагеры смерці" замест "лагеры смерці, створаныя фашыстамі на тэрыторыі Польшчы".

Зігмар Габрыэль не першы германскі палітык, які ў настолькі жорсткай форме прызнае адказнасць сваёй краіны і свайго народа за Халакост. У свой час чацвёрты канцлер ФРГ Вілі Брант – таксама сацыял-дэмакрат, як і Габрыэль, – падчас візіту ў Польшчу ўстаў на калені перад помнікам героям і ахвярам Варшаўскага гета. Большая частка немцаў лічыць сваіх продкаў таксама вінаватымі ў гэтай сусветнай трагедыі.

Каментарый міністра замежных спраў ФРГ можа паўплываць на пазіцыю значнай часткі польскага грамадства ў стаўленні да новага, дастаткова супярэчлівага закона. Сёння ў Польшчы разгарнулася вялікая дыскусія, ці наогул быў патрэбны такі закон, які можа пасварыць Варшаву з Ізраілем: сапраўды былі выпадкі, калі палякі дапамагалі гітлераўцам знаходзіць яўрэяў, і гэта, у прыватнасці, прызнавалі нават на ўзроўні вышэйшых кіраўнікоў Польшчы (напрыклад, трагедыю невялічкага гарадка Едвабне, дзе забойствы яўрэяў пры ўдзеле палякаў насілі масавы характар). Таму, безумоўна, пазіцыя аднаго з кіраўнікоў германскага ўрада будзе ўспрынята прыхільнікамі новага польскага закона – перш за ўсё з ліку ўрадавай партыі "Права і справядлівасць" Яраслава Качыньскага – як падтрымка.

СКАНДАЛ

# Ці давераць замежнікам кіраваць італьянскімі музеямі?

Дзяржаўны Савет Італіі зноў выступіў супраць магчымасці запрашаць замежных спецыялістаў кіраваць музеямі. Для краіны, у якой знаходзіцца прыкладна 5% аб'ектаў, занесеных у спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, гэта прынцыповае пытанне.

Скандал распачаўся ў 2015 годзе, калі Міністэрства культурнай спадчыны і культурнай дзейнасці абвясціла, што запрасіла шэраг сусветна вядомых спецыялістаў кіраваць галоўнымі музеямі Італіі, сярод якіх – Галерэя Баргезе ў Рыме, Галерэя Уфіцы ў Фларэнцыі, Нацыянальны археалагічны музей Неапаля, Палацца Дукале ў Мантуі, Археалагічны парк Пестум. Парламент прагаласаваў за тое, каб абмежаваць паўнамоцтвы міністэрства ў гэтым пытанні.

З таго моманту Вярхоўны суд Італіі шаснаццаць (!) разоў пацвярджаў права замежнікаў займаць адпаведныя пасады, але ж Дзяржаўны савет настойваў, што кіраваць нацыянальнымі музеямі ў Італіі могуць толькі грамадзяне гэтай краіны.

Міністр культурнай спадчыны і культурнай дзейнасці Дарыа Франчаскіні ў "Твітары" задаў пытанне: "Што пасля гэтага будуць думаць пра Італію ў свеце?" Ніхто з дэпутатаў італьянскага парламента не адказаў міністру. Але ж логіку заканадаўцаў трэба зразумець: каштоўнасць той спадчыны, што захоўваецца ў скарбніцах Рыма, Фларэнцыі, Генуі, Венецыі і іншых гарадоў-музеяў Італіі, немагчыма нават уявіць. Колькі, напрыклад, каштуе славутая "Вясна" Сандра Баціччэлі, якая знаходзіцца ў Галерэі Уфіцы? І ці будзе замежнік сапраўды зыходзіць з меркавання зрабіць італьянскае класічнае мастацтва такім дасягальным для наведвальнікаў, як сёння?

Напрыклад, галерэя англійскага горада Манчэстара зняла з экспазіцыі карціну вядомага мастака XIX стагоддзя Джона Вільяма Уотэрхауса "Гілей і німфы", якая была напісана на сюжэт антычнага міфа. Супраць яе дэманстрацыі выступілі англійскія феміністкі, якія настойвалі, што карціна ўтрымлівае сексісцкія матывы. Для Італіі, класічны жывапіс якой утрымлівае шмат фрывольных сюжэтаў, гэты інцыдэнт сёння быў бы немагчымы. А заўтра?

ИХ НРАВЫ

# Европейцы против разбазаривания еды

2 февраля стало понятно, что у единой Европы будет новый общеевропейский закон. Один миллион подписей собрала петиция за принятие еврозакона против разбазаривания еды. Автором петиции стал член муниципального совета французского города Курбевуа Араш Дерамбарш. До этого он сумел добиться принятия в декабре 2015 года аналогичного закона на уровне своей родной Франции: теперь здесь налагаются высокие штрафы на магазины и предприятия общественного питания, которые выбрасывают продукты вместо того, чтобы отдавать их нуждающимся.

Фактически сегодня в Европе продукты должны иметь две маркировки. Первая сигнализирует, когда продукт произведен. Вторая воспроизводит оптимальную дату, когда продукт стоит употребить в пищу, – но это не означает, что после этого он не годен. Дерамбарш и его сторонники-волонтеры собирали такие продукты, которые выбрасывались ресторанами, и раздавали их нуждающимся.

Чтобы принять подобный закон на уровне Европейского Союза, необходимо собрать не менее миллиона подписей в семи странах – членах ЕС. Инициатива Дерамбарша была поддержана депутатами из Германии, Италии, Испании, Бельгии, Греции и Великобритании (поскольку процедура «брексита» до сих пор не завершена и депутаты Европейского парламента от Великобритании продолжают сохранять свой мандат, голоса, собранные жителями Объединенного Королевства, также учитываются).

Представлять петицию на уровне Европы, скорее всего, будет президент Франции Эманюэль Макрон: к нему с соответствующей просьбой обратился инициатор петиции Араш Дерамбарш. Кроме того, Франция сегодня единственная европейская страна, имеющая опыт применения подобного нормативного акта. Впрочем, соответствующий опыт, хотя и не на уровне закона, есть в Великобритании, создавшей специальную сеть продовольственных магазинов для малоимущих.

Как показывает статистика, каждый девятый житель планеты, а это, по данным, озвученным в октябре 2017 года Генеральным Секретарем ООН Антониу Гуттерешем, примерно 815 миллионов человек, голодает. При этом треть производимой еды на сумму около 750 миллиардов долларов выбрасывается на свалку. Общая площадь сельскохозяйственных угодий, где производится этот излишек продовольствия, примерно равна территории Мексики, а на ее орошение тратится пресная вода, которой можно напоить девять миллионов человек.

На этом фоне весьма оправдана политика Европейского Союза по финансовой поддержке фермеров, чтобы они не производили излишков продукции и не тратили на ненужное производство драгоценные природные ресурсы. И по-другому выглядит политика наших восточных соседей, активно «утилизирующих» так называемые санкционные продукты – показательно давя овощи тракторами и сжигая мясо и птицу вместо того, чтобы просто отдать эту пищу в детские дома и дома престарелых.

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**

У ДВУХ СКАЗАХ

***

У Чалябінску адкрылі помнік былому прэм'ер-міністру Расійскай імперыі Пятру Сталыпіну, які быў забіты тэрарыстам падчас наведвання Кіева (скульптары Міхаіл і Антон Плахоцкія). Адміністрацыйная кар'ера Сталыпіна пачыналася з пасады гродзенскага губернатара (1902–1903).

***

Турцыя часткова зняла падаткі з будаўніцтва расійскага газаправода "Турэцкі паток". Плануецца, што першая "нітка" газавай магістралі пачне працу ў сакавіку 2018 года, і газ з яе будзе выкарыстоўвацца самой Турцыяй.

***

Украінскія мастакі Дар'я Марчанка і Дэніэл Грын прадставілі свае працы ў Нью-Ёрку. Сярод іх – партрэт Дональда Трампа, складзены з грошай, і партрэт Уладзіміра Пуціна, складзены з гільзаў, якія былі адмыслова прывезены з Данбаса.

***

У Вялікабрытаніі пачынае працаваць закон, згодна з якім можна будзе арыштаваць любую маёмасць коштам звыш 50 тысяч фунтаў пры ўмове, што ўласнік не зможа дакументальна пацвердзіць яе паходжанне. Міжнародная арганізацыя Transparency International, якая змагаецца з карупцыяй, ацэньвае "падораную" нерухомасць у Лондане ў 4,4 мільярда фунтаў.

***

Вядомая амерыканская спявачка Лэдзі Гага была вымушана адмовіцца ад запланаванага еўрапейскага турнэ праз дрэнны стан здароўя. Вядома, што яна пакутуе на фібраміялгію – захворванне мышцаў.

***

Інтэрнэт-платформа YouTube пачне пазначаць каналы тых медыя, што фінансуюцца дзяржавамі, партыямі ці грамадскімі аб'яднаннямі. Гэта дазволіць карыстальнікам рабіць высновы наконт таго, адкуль менавіта сыходзіць кантэнт і ці не маніпулююць іх свядомасцю дзеля дасягнення палітычных мэт.

***

Кіраўніцтва футбольнага клуба "Рэал" павялічыла зарплату свайму форварду Крыштыяну Раналду на 9 мільёнаў еўра. Зараз славуты футбаліст будзе атрымліваць 25 мільёнаў еўра ў год.

***

Ірак распачаў ваенную аперацыю на мяжы з Саудаўскай Аравіяй дзеля зачысткі сваёй тэрыторыі ад баевікоў так званай Ісламскай Дзяржавы. Напрыканцы мінулага года аналагічная аперацыя прайшла на мяжы Ірака з Сірыяй.

***

Кіраўніцтва Дзяржаўнага агенцтва сацыяльнага страхавання і пенсій Таджыкістана надала статус сакрэтнай інфармацыі аб звышвысокіх пенсіях у краіне. Сёння сярэдні памер таджыкскай пенсіі складае 272 самані (каля 30 долараў), і гэта самы нізкі паказчык па былых савецкіх рэспубліках.

***

Францыя ахвяруе 200 мільёнаў еўра ў фонд Global Partnership for Education, які займаецца развіццём адукацыі ў найбяднейшых краінах свету –пра гэта паведаміў прэзідэнт Францыі Эманюэль Макрон. Францыя стане, такім чынам, чацвёртай краінай-донарам па памеры ўнесеных у фонд сродкаў пасля Вялікабрытаніі, Еўрасаюза і Канады.

БОГАТОГО УРОЖАЯ!

# Лунно-солнечный посадочно-посевной календарь огородников и цветоводов на 2018 год

## Запрещенные дни для посадки и пересаживания растений в 2018 году

| | январь | февраль | март | апрель | май | июнь | июль | август | сентябрь | октябрь | ноябрь | декабрь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Запрещенные дни для посадки и пересаживания растений в 2018 году | 16–18 | 15–17 | 16–18 | 15–17 | 14–16 | 12–14 | 12–14 | 10–12 | 8–10 | 8–10 | 6–8 | 6–8 |

| | январь | февраль | март | апрель | май | июнь | июль | август | сентябрь | октябрь | ноябрь | декабрь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Полнолуние в 2018 году | 2,31 | – | 2,31 | 30 | 29 | 28 | 27 | 26 | 25 | 24 | 23 | 22 |

## Наилучшие дни для посадки и посева конкретных культур на 2018 год

«Наилучшие дни» – не означает, что они единственно возможные.

*Прочерк означает, что сажать и сеять можно в любой день благоприятной фазы Луны, исключая запрещенные дни.*

| Растение | январь | февраль | март | апрель | май | июнь | июль | август | сентябрь | октябрь | ноябрь | декабрь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| очень благоприятны для большинства растений с подземной съедобной частью (корнеплоды) | 10–11 | 6–8 | 6–7 | 2–3, 12–13 | 1, 9–11 | 6–7, 10–11 | 3–4, 8–9, 30–31 | 1, 4–5, 8–9, 27–28, 31 | 1, 5–6, 27–29 | 2–3, 25–26, 29–30 | 25–26 | 4–5, 23–24, 31 |
| очень благоприятны для большинства растений с надземной съедобной частью | 1, 20–21, 25–26, 29–30 | 18, 21–22, 25–26 | 20–21, 24–26 | 18, 21–22, 29 | 18–19, 27–28 | 15, 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19 |
| цветы луковичные, клубневые, корневищные, в т.ч. комнатные | 5–7, 10–11 | 2–3, 6–8 | 6–7 | 2–3, 12–13 | 1, 9–11 | 6–7, 10–11 | 3–4, 8–9, 30–31 | 1, 4–5, 8–9, 27–28, 31 | 1, 5–6, 27–29 | 2–3, 25–26, 29–30 | 6–7, 25–26 | 2–5, 23–24, 30–31 |
| цветы из семян | 1, 20–21, 25–26, 29–30 | 18, 21–22, 25–26 | 1, 20–21, 24–26, 29–30 | 18, 21–22, 25–26, 29 | 18–19, 22–23, 27–28 | 15, 18–20, 23–24 | 16–17, 20–22 | 13, 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19 |
| декоративные лианы, комнатные лианы | 1, 20–21, 25–30 | 18,21–26 | 20–26 | 18–22, 29 | 17–19, 27–28 | 15, 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19, 21 |
| кабачки, патиссоны, тыква | 1, 20–21, 25–30 | 18,21–26 | 20–26 | 18–22, 29 | 17–19, 27–28 | 15, 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19, 21 |
| брюква, репа | 10–11 | 6–8 | 6–7 | 2–3, 12–13 | 1, 9–11 | 6–7, 10–11 | 3–4, 8–9, 30–31 | 1, 4–5, 8–9, 27–28, 31 | 1, 5–6, 27–29 | 2–3, 25–26, 29–30 | 25–26 | 4–5, 23–24, 31 |
| горох, фасоль, бобы | 1, 20–21, 25–30 | 18,21–26 | 20–26 | 18–22, 29 | 17–19, 27–28 | 15, 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19, 21 |
| земляника садовая (клубника) | – | – | – | 27–28 | 24–26 | 21–22 | 18–19 | 14–15 | 11–12 | – | – | – |
| ревень, фенхель, кольраби | 8–9 | 4–5 | 3–5 | 1 | – | – | – | – | – | – | 5 | 2–3, 29–30 |
| капуста (в т.ч. цветная), спаржа | 1, 20–21, 25–26, 29–30 | 18, 21–22, 25–26 | 20–21, 24–26 | 18, 21–22, 27–29 | 18–19, 24–28 | 15, 21–24 | 18–22 | 14–18 | 11–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 5, 16–18, 21–22 | 2–3, 14–15, 18–19, 29–30 |
| картофель, топинамбур, арахис | 8–11 | 4–8 | 3–7 | 1–3, 12–13 | 1, 9–11 | 6–7, 10–11 | 3–4, 8–9, 30–31 | 1, 4–5, 8–9, 27–28, 31 | 1, 5–6, 27–29 | 2–3, 25–26, 29–30 | 5, 25–26 | 2–5, 23–24, 29–31 |
| лук на перо | 1, 20–21, 25–26, 29–30 | 18, 21–22, 25–26 | 1, 20–21, 24–26, 29–30 | 18, 21–22, 25–29 | 18–19, 22–28 | 15, 18–24 | 16–17, 20–22 | 13, 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19 |
| лук на репку | 1, 20–21, 25–26, 29–30 | 18,21–22, 25–26 | 3–5, 20–21, 24–26 | 1, 18, 21–22, 29 | 18–19, 27–28 | 15, 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19 |
| морковь, пастернак (на корень) | 1, 8–9, 20–21, 25–26, 29–30 | 4–5, 18,21–22, 25–26 | 3–5, 20–21, 24–26 | 1, 18, 21–22, 29 | 18–19, 27–28 | 15, 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 5, 6–18, 21–22 | 2–3, 14–15, 18–19 |
| огурцы, арбуз, дыня, кукуруза | 1, 20–21, 25–30 | 18,21–26 | 1, 20–26, 29–30 | 18–22, 22–29 | 17–22, 27–28 | 15–19, 23–24 | 13–15, 20–22 | 11–12, 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19, 21 |
| перец сладкий, баклажаны | 1, 20–21, 25–26, 29–30 | 18, 21–22, 25–26 | 1, 20–21, 24–26, 29–30 | 18, 21–22, 25–26, 29 | 18–19, 22–23, 27–28 | 15, 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14, 23–24 | 11–12, 20–21 | 16–18, 21–22 | 14–15, 18–19 |
| перец жгучий, острый (любит посев в знаке Стрельца, независимо от фазы Луны) | 12–13 | 9–10 | 8–10 | 4–6 | 2–3 | 25–27 | 23–24 | 19–20 | 15–17 | 13–14 | 9–10 | – |
| петрушка на зелень | – | – | 1, 29–30 | 25–26 | 22–23 | 18–20 | 16–17 | 13 | 23–24 | – | – | – |
| петрушка на корень | 5–7 | 2–3 | 24–26 | – | – | – | – | – | – | 6–7 | 2–4, 30 | 1, 27–28 |
| подсолнечник | – | – | – | 29 | 27–28 | 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14 | 11–12 | – | – |
| редис, редька, дайкон | – | 2–3 | – | 12–13 | 9–11 | 6–7 | 3–4, 30–31 | 1, 27–28 | – | – | – | – |
| салат, шпинат, мангольд | 1, 29–30 | 25–26 | 24–26 | 21–22 | 18–19 | 15 | – | – | – | – | – | – |
| свекла | 6–8 | 6–7 | 2–3, 12–13 | 1, 9–11 | 6–7 | 3–4, 30–31 | 1, 8–9, 27–28 | 5–6 | 2–3, 29–30 | 25–26 | 4–5, 23–24, 31 | – |
| сельдерей (корневой) | 8–9 | 4–5 | 3–5 | 1 | – | 10–11 | 8–9 | 4–5, 31 | 1, 27–29 | 25–26 | 5 | 2–3, 29–30 |
| томаты | 1, 25–26, 29–30 | 21–22, 25–26 | 20–21, 24–26 | 18, 21–22, 29 | 18–19, 27–28 | 15, 23–24 | 20–22 | 16–18 | 13–14 | 11–12 | 21–22 | 18–19 |
| укроп, кинза, тмин, горчица | – | – | – | 27–28 | 24–26 | 21–22 | 18–19 | 14–15 | 11–12 | – | – | – |
| хрен | 8–9 | 4–5 | 3–5 | 1 | – | – | – | – | – | – | 5 | 2–3, 29–30 |
| чеснок | 12–13 | 9–10 | 8–10 | 4–6 | – | – | – | – | – | – | 9–10 | – |

## Неблагоприятные дни для посадки и пересаживания растений в 2018 году, лучше воздержаться от посадок

| | январь | февраль | март | апрель | май | июнь | июль | август | сентябрь | октябрь | ноябрь | декабрь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Неблагоприятные дни для посадки и пересаживания растений в 2018 году, выпадают на прохождение Луны по бесплодным знакам зодиака, лучше воздержаться от посадок: | 3–4, 19, 22–23, 31 | 1, 14, 19–20, 27–28 | 13–15, 19, 27–28 | 9–11, 14, 23–24 | 7–8, 12–13, 20–21 | 3–5, 8–9, 16–17, 30 | 1–2, 5–7, 14–15, 28–29 | 2–3, 24–25, 29–30 | 7, 20–22, 25–26 | 4–5, 17–19, 22–24, 31 | 1, 14–15, 19–20, 27–29 | 11–13, 16–18, 25–26 |

МЧС ПРЕДУПРЕЖДАЕТ




## УЛЫБНИТЕСЬ...

***

Идет ирландская свадьба. Ведущий объявляет:

– А теперь пусть все женатые встанут рядом с человеком, благодаря которому их жизнь обрела смысл.

Бармена чуть не затоптали насмерть…

***

Одесская мама выговаривает сыну:

– Иди женись, иди… Делай маму сиротой!

***

Марина бросила Виталика, когда узнала, что он купил два алмазных диска какой-то там болгарке.

***

– У тебя всегда есть деньги. Откуда? Ведь твой муж скупердяй!

– Если мне нужны деньги, я начинаю скандалить и заявляю, что уеду от него к маме, и он тут же дает мне на билет…

***

На первом свидании надо проявить себя с лучшей стороны, поэтому Зинаида взяла с собой термос с борщом.

***

– Коньяк полезен для сердца, он расширяет сосуды.

– Да, но потом они снова сужаются.

– А вот этого мы не допустим!!!

***

Муж выносит мусор, а жена – мозг.

***

Из народного опыта: если пьянка дошла до торта – она не удалась.

***

– Свой первый миллион я заработал уже через полгода после свадьбы. Это был миллион претензий от жены.



ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

# Маленькие хитрости при приготовлении рыбы



1. Перед обработкой рыбы поместите ее в посуду с водой: если рыба тонет, она свежая, если нет, то откажитесь от приготовления данного продукта.
2. Для устранения сильного запаха при жарении рыбы в растительное масло положите одну картофелину, очищенную и нарезанную ломтиками.
3. Рыбный бульон солят в самом начале варки.
4. Соленую рыбу, прежде чем разделывать, заливают холодной водой, чтобы она слегка набухла – тогда ее легче будет чистить.
5. Чтобы рыба не разваливалась при жарке, ее нужно разделать и посолить за 15 минут до приготовления.
6. Сильно соленую рыбу вымачивают в холодной воде в течение 4–6 часов. Через каждые 1–2 часа воду меняют. Хранить вымоченную рыбу не рекомендуется.
7. Внутренности рыбы (некрупной) можно удалить, не разрезая брюшка. Для этого нужно сделать глубокий разрез возле жабр, перерубить позвоночник и удалить голову вместе с внутренностями.
8. При жарке рыбы добавьте в горячее масло немного соли, тогда рыба приобретет хрустящую корочку.
9. Чтобы рыба хорошо отчищалась от чешуи, ее нужно опустить в кипяток, а затем положить в теплую воду с добавлением уксуса.
10. Кожа с рыбы легко снимается, если предварительно опрыскать ее уксусом.
11. Если селедка слишком соленая, ее нужно вымачивать в чае или молоке.
12. Чтобы рыба хорошо подрумянилась, надо, перед тем как зажарить, вытереть ее полотенцем.
13. Чешуя легче удаляется, если начать чистить рыбу от спинного плавника к брюшку и хвосту.
14. Морская рыба будет нежнее, если за 30–40 минут до жарки ее посыпать сахаром.
15. Мелкую и порезанную на куски рыбу закладывают в кипящую воду, чтобы она не переварилась.
16. Мороженую рыбу при варке можно класть только в холодную воду.
17. Не рекомендуется отваривать миногу, леща, угря и карпа – бульон из них получается горьковатым.
18. Крупную рыбу при варке кладут в холодную воду, а когда закипит, по мере необходимости добавляют воды.
19. Все рыбные кушанья нельзя варить при сильном кипении. В начале закипания следует уменьшить нагрев и продолжать варку при слабом кипении, что видно по едва заметному, но не прекращающемуся движению жидкости.
20. При чистке скользкой рыбы можно опускать пальцы в соль – это облегчит труд.
21. Чистить рыбу проще всего при помощи обычной терки под несильной струей холодной воды. Чистят рыбу в направлении от хвоста к голове.
22. Чтобы определить готовность вареной рыбы, надо воткнуть в нее спичку. Если спичка легко входит в мякоть, блюдо готово.
23. Жарить рыбу нужно в небольшом количестве жира, лучше всего использовать смесь растительного и сливочного масла; не кладите кусочки плотно друг к другу, иначе не получиться аппетитной корочки со всех сторон.
24. Если от обеда или ужина осталась отварная или жареная рыба, можно хранить ее на холоде не дольше 1–2 дней и обязательно перед подачей к столу отварную рыбу надо прокипятить в рыбном бульоне или воде, а жареную дополнительно прожарить – каждый кусочек с обеих сторон.
25. Икра зернистая долго не высохнет, если в банку с икрой налить сверху тонкий слой растительного масла и плотно закрыть.
26. Залогом ароматного рыбного бульона является наличие в нем нескольких видов рыбы.



**Адрас рэдакцыі:**
**220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 05.02.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 440 экз. Заказ № 568.